# Галерэя

## найновых падарожжаў,

прадпрынятых

## па Расеі і чужым краінам

рускімі,

прадстаўленая

ў серыі выданьняў

## Леанардам баронам фон Будберг.

........................................

Першае выданьне.

---

Цэрбст, 1832.

Надрукавана і выдадзена
Густавам Адольфам Кумэрам.

# Падарожжы аднаго рускага,

па

Белай-, Малай- і Новай Расеі,

па,

Правінцыі данскіх і чарнаморскіх казакаў,

Каўказу і Грузыі,

прадпрынятыя

ў 1827-м годзе.

---

Цэрбст, 1832.

Надрукавана і выдадзена
Густавам Адольфам Кумэрам.

# Другі ліст

з Віцебска

У гэты момант я перасякаю Беларусь, край вельмі няшчасны і надзвычайна зьбяднелы пасля ваенных спусташэньняў 1812 і потым жудасна спасьцігшых яго на працягу некалькіх год запар неўраджаяў. У шчасьлівых мясьцінах цяжка з дакладнасьцю ўʼявіць сабе вартае жалю становішча туташніх сялян, калі не пабачыць іх уласнымі вачыма, як гэта зрабіў я. Хаця агульна сьцвярджаюць (і гэта не выклікае сумневаў), што яны вельмі прыгнечаныя сваімі панамі праз цяжкую паншчыну, што яны зьяўляюцца звычайна непапраўнымі гультаямі, пры гэтым туташняя зямля адна з самых неўрадлівых. Аднак што дапаўняе іх галечу, то гэта габрэі, што жывуць вакол і сярод іх. Паўсюль, дзе яны, як тут, массава гняздзяцца, яны смокчуць кроў дзейных і прамысловых народных клясаў. У якасьці адміністратараў, карчмароў яны знаходзяць на землях туташніх паноў за кошт селяніна сапраўды зручнае, часта выгаднае месца жыхарства. У якасьці першых яны бяруць у арэнду увесь, часта не вялікі, панскі кавалак зямлі, пры гэтым ён атрымлівае даход толькі праз іх. Вядома, што пан пры гэтым знаходзіць сваю выгаду, габрэй сваю таксама не забудзе знайсьці, – але як пры гэтым жывуць бедныя сяляне, вельмі дакладна паказвае іх жудаснае становішча, якое заходзіць настолькі далёка, што яны пякуць сабе хлеб з саломы змешанай з дробна насечанымі кавалачкамі кары. Дзеля падрыву іх маралі тут маецца бясконцая колькасьць алкагольных карчмоў, усе яны належаць габрэям; імі напоўненыя не толькі вялікія шляхі, але нават і найдробныя сялянскія тропы. Там марнуе селянін не толькі свае апошнія наяўныя грошы, але таксама і сваю вопратку, свой сабраны ураджай; калі ён такім чынам ахвяруе габрэям усю сваю наяўную маёмасьць дзеля задавальненьня сваё прагі, то ён закладае ім будучы ураджай, а часта і самаго сябе са сваёй працай на пэўную колькасьць год. Неўраджай, што цягнуўся не адзін год у беларускіх губернях, прынёс поўнае спусташэньне яго сельскаму насельніцтву, як землеўласьнікам, так і сялянам. Шмат з іх цалкам пакінулі сваю радзіму ў тыя няшчасныя гады, 1816 і 1817, і перасяліліся ў суседнія рускія губерні.

Але – я заскочыў далёка наперад; каб прадставіць Вам апісаньне майго падарожжа ў храналагічным парадку, мне трэба вярнуцца да Пархова. 6-га чэрвеня, пакінуўшы ранкам гэты гарадок, на наступны дзень апоўдні я прыбыў у Вялікія Лукі. Не пасьпеў я ўвайсьці ў свой пакой, як дзьве добра апранутыя жанчыны, маці з дачкой, зьвярнуліся да мяне па міласьціну з нагоды беднасьці. Усё адбылося пасрэдствам афіцыйнага, накіраванага да ўсіх хрысьціянскіх мецэнатаў хадайніцтва. Абедзьве просьбіткі здавалася хацелі паказаць гэтым свой дваранскі стан, як найлепшую прычыну, якая не дазваляе ім займацца сумленным, грамадзскім промыслам. Гэтая вытанчанае жабрацтва, ламіцца ў хаты з жабрацкімі лістамі, у апошнія гады ў нас, у Расеі, здаецца хоча абгрунтаваць лайдацтва як асаблівы род дзейнасьці.

Вялікія Лукі, раённы горад Пскоўскай губерні, гэта ўжо вельмі выбітны горад, аднак амаль усе будынкі, з нешматлікімі выключэньнямі, пабудаваныя безгустоўна і з дрэва *)[1]. Нажаль гэта адносіцца да большасьці нашых правінцыйных гарадоў, калі ў іх разгараецца самы маленькі пажар, які ў грунтоўна збудаваным мураваным доме адразу мог быць патушаны пры ўзьнікненьні, тут аднак цэлыя вуліцы без ратунку, бо нават пажарныя арганізацыі цалкам адсутнічаюць, у зьлічаныя хвіліны робяцца ахвярай лютасьці полымя. Нідзе не будуюць настолькі неверагодна хутка і танна, як у нас у Расеі, затое аднак у нас рэдка калі хаты пераходзяць у спадчыну да другога пакаленьня; але нас гэтая бяда мала

---

[1]*) Аднак у апошні час у шматлікіх гарадах Расеі ўжо спрабуюць змагацца з гэтай бядой праз увядзеньне безгустоўных мураваных будынкаў. Таксама і ў Вялікіх Луках я заўважыў некалькі адміністратыўных мураваных будынкаў, будаўніцтва якіх яшчэ не было скончанае.

клапоціць, бо мы атрымліваем ад гэтага толькі задавальненьне. – Вялікія Лукі, што ляжаць на рацэ Ловаль, маюць сапраўды цудоўнае асяродзьдзе. Я налічыў там 10 цэркваў, адзін мужчынскі і адзін жаночы манастыр.

У 120 вёрстах ад Вялікіх Лукаў, перабраўшыся цераз Дзьвіну, я праехаў праз мястэчка Сураж, якое населенае аднымі толькі габрэямі, шмат з якіх аднак вельмі заможныя. Гандаль збожжам і іншымі прадуктамі харчаваньня, які вядзецца ўздоўж Дзьвіны праз гэтае месца да Рыгі, дае ім істотную выгаду.

Як толькі я прыбыў у Віцебск і яшчэ не пасьпеў пакінуць мой экіпаж, як мяне ў ім ужо атачыў натоўп габрэяў, з якога кожны намагаўся загадзя прапанаваць мне свае паслугі. Адзін пытаўся ў мяне, ці я жадаю нешта набыць – альбо зладзіць нейкую справу; іншы запэўніваў мяне, што ён знаёмы з усімі купцамі ў горадзе, яны прадаюць яму свае тавары значна таньней чым каму іншаму; 3-і, 4-ы і 5-ы сунулі мне каробкі, у якіх можна было адначасова набыць найвытанчаную ангельскую ткаіну, выдатны турэцкі табак, галандскае палатно, усё па вельмі нізкім коштам; яшчэ іншы прапаноўваў паказаць мне дом губэрнатара, рэстаран цэнтральнай адміністрацыі, пры гэтым ён шаптаў мне ў вуха: “і калі Вы тут, каб вырашыць нейкую судовую справу, то толькі скажыце мне, я найдакладна ведаю ўсіх дарадчыкаў і сакратароў, якія вядуць тутэйшыя суды, я адразу правяду Вас у іх кватэры і г.д.”. Падобная незвычайная ветлівасьць зьдзівіла мяне, паштмайстар аднак адразу вырашыў гэтае маё непаразуменьне, сказаўшы: відаць, Вы яшчэ ніколі не падарожнічалі па Польшчы і ня ведаеце, што ўсе належныя да былога Каралеўства польскага, а цяпер далучаныя да Расеі губерні перапоўненыя габрэямі, якія акрамя таго, што прысвоілі сабе ў вёсках выключнае права кіраваньня, альбо арэнды зямельных участкаў, жывуць таксама і ў нашых гарадах з аказаньня падобных і іншых паслуг, прапановы якіх Вы зараз чулі. За нізкую плату яны гатовыя суправаджаць падарожніка ўвесь дзень, яны здабудуць яму па танным коштам насамрэч усё, што яму патрэбна. – Гэты заведзены звычай падаўся мне ні ў якім разе не вартым асуджэньня; што можа быць яшчэ больш прыемна падарожніку, чым – трапіўшы ў незнаёмы горад, адразу знайсьці да сваіх паслугаў падобнага цыцэрона.

Віцебск і Магілёў гэта два цэнтральных горада непасрэднай Беларусі, да якой аднак звычайна, і канечне памылкова, хочуць лічыць яшчэ большыя тэрыторыі. Віцебск – шырокі і сапраўды прыгожы горад. Будынкі па большасьці мураваныя і з густам пабудаваныя. Тут таксама маюцца два манастыры, адзін для мужчын, другі для жанчын; акрамя некалькіх рускіх і каталіцкіх цэркваў шмат габрэйскіх школ і сінагог. Ніжэйшыя народныя клясы гэта абарыгены краіны, шляхта – пераважна палякі, купцы і рамесьнікі – габрэі; аднак можна сустрэць таксама шмат рускіх, усе цывільныя і грамадскія адміністратыўныя пасады занятыя па большасьці апошнімі. Калі ў знакамітым 1812 годзе тут некалькі тыдняў кватэраваўся Напалеон са сваім войскам, увесь гэты раён ані на дробязь не пацярпеў ад спусташэньня яго ваярамі, бо належыў да былой Польшчы, якую Напалеон аберагаў і падманваў вялікімі спадзяваньнямі на хуткую палітычную рэстаўрацыю. – Паводле найвысокага загаду ад 1-га студзеня 1831 у абедзьвух беларускіх губернях была цалкам скасаваная юрыдычная сіла Літоўскага Статута, на месца якога прыйшла агульная для ўсёй рускай Імпэрыі канстытуцыя.

## Трэці ліст

з Магілёва

Падарожжа па Расеі мусіць далёка адставаць ад падарожжа па большасьці астатніх эўрапейскіх краін па цікавасьці і прыемнасьці, гэта я ўсё больш адчуваў пад час цяперашняга, чым больш я ў ім знаходзіўся. Гарады ў Расеі стаяць надта далёка адзін ад аднаго, вёскі трапляюцца таксама рэдка, падарожніка паўсюль суправаджае невыносна нудная манатоннасьць. Зусім іншыя краявіды адкрываюцца яму пры аб’езьдзе Нямеччыны, Італіі ці Францыі. Тут за вёскай ідзе за вёскай, гарады стаяць побач амаль у суседскіх масштабах, у

сельскай мясцовасьці ён едзе толькі праз ураджайныя палі і сады, паўсюль бачыць ён утульныя корчмы, гасьцінных карчмароў, прывабных дзяўчын, якія красуючыся ўсімі прывабнасьцямі маладосьці стараюцца яму прыслужыць. – У нас, нават у тых правінцыях, якія адносна колькасьці насельніцтва яшчэ могуць параўнацца з некаторымі мясьцінамі Нямеччыны і Францыі, ён не сустракае нічога з гэтага, ён едзе нібыта па пустыні. Прычына гэтага хаваецца ў тым, што Расея забудаваная пакуль што зусім малай колькасьцю гарадоў, а вёскі пачварна вялікія, шмат з іх займаюць па шырыні нямецкую мілю, таму і ляжаць яны таксама на вялікіх адлегласьцях адна ад адной. У астатняй Эўропе кожнае трошкі істотнае места адразу завецца горадам, сяляне жывуць у раскіданых паўсюль каля дарог вёсках, якія складаюцца з некалькіх, а часта нават з адной хаты, кожны селянін валодае сваімі па большасьці з сапраўдным клопатам дагледжанымі палямі і садамі; усё там нясе адбітак значна большага і больш жывога людскога натоўпу і мае пагэтаму для падарожніка, вандрue ён пеша, альбо на дыліжаньсе, цікавасьць разнастайнасьці, што ўвесь час зьмяняецца і заўсёды застаецца новай; да гэтага дадаецца цікавая кампанія спадарожнікаў, якія там часта выпадкова едуць з ім разам, у іх зьмястоўных размовах яму робяцца больш прывабнымі тыя мясьціны, якія ён наведвае, перавага, якой ён пры цяперашнім стане рускай пошты яшчэ цалкам вылішаны.

Віцебск я пакінуў ранкам пасьля амаль чатарохдзённага прыпынку, апоўдні таго самага дню я прыбыў у Бабіновіч, гарадок, што ляжыць у рамантычнай даліне – а ўвечар дабраўся да Воршы на Дняпры (які раней называлі Барысфенам), яна належыць ужо да Магілёўскай губерні і мае вялікую колькасьць насельніцтва праз аб'яднанне некалькіх трактаў, як пецярбурзскі, маскоўскі, рыжскі, смаленскі і іншыя, якія перасякаюцца тут. Шлях ад Віцебска да сюды атрымлівае вельмі прыемны выгляд праз шчыльна пакрытую лісьцем алею з бярозаў, якімі ён на ўсёй працягласьці абсаджаны з абодвух бакоў. Хаця найвысокі загад прадпісвае падобнае ўсім астатнім паштовым дарогам у эўрапейскай Расеі, аднак прыняты ён да ажыцьцяўленьня толькі ў некалькіх мясьцінах. Ворша зрабілася знакамітай у айчыннай гісторыі праз некалькі сражэньняў, якія адбыліся 300 год таму на яе зямлі паміж расейцамі і літоўцамі, і ў незабыўным 1812-м праз вядомае адступленьне Напалеона.

Наступным ранкам я дабраўся да мястэчка Шклоў, пра якое сьцвярджаецца ў гісторыі Расейскай Імперыі Карамкзіна: некаторыя вучоныя хочуць вывесьці з яго назву славянскай народнасьці *)[2]. Мне на самой справе здаецца трошкі сьмешным паверыць, што настолькі распаўсюджаная руская народнасьць магла пазычыць сваю назву ад невядомага месца, якое само верагодна атрымала яе ад рачулкі Шклоў, паміж якой і Дняпром яно стаіць. Шклоў гэта толькі мястэчка і ні ў якім разе не раённы горад, ён аднак заслугоўвае гэтага рангу больш за некаторыя іншыя гарады нашай краіны, бо ён мае істотны памер, пэўную колькасьць дзяржаўных будынкаў, мураваны гандлёвы двор і вядзе шырокі гандаль. Тут на працягу году праводзяцца вельмі папулярныя ярмаркі, дзе падчас набываюць замежныя прадметы раскошы, якія ў нашай паўночнай рэзыдэнцыі не знайсьці ні за які кошт, бо яны, верагодна, належаць да недазволеных тарыфам. Катарына II падаравала гэтае мястэчка графу Зорычу, які заснаваў тут на ўласныя сродкі кадэтскі корпус, што пасьля шматлікіх пераменаў месца цяпер нарэшце замацаваўся ў Маскве. Наша войска ўдзячнае гэтай вайсковай школе шматлікімі дасьведчанымі афіцэрамі. – Таксама і ў Шклове я сустрэў празьмерную колькасьць габрэяў.

Магілёў на Дняпры, (бо ёсьць яшчэ іншы на Днястры), ёсьць другі цэнтральны горад Беларусі і пабудаваны часткова на ўзвышшах, часткова ў нізінах, праз што ён атрымлівае аднак вельмі прыгожае размяшчэньне. Магілёўскі каталіцкі арцыбіскуп, які мае ў Петэрбурзе сваю сталую рэзыдэнцыю, зьяўляецца галавой па-над усімі рымска-каталіцкімі хрысьціянамі

---

[2]*) Іншыя аднак з большай прычынай (выводзяць назву славян) з рускага слова "Слава".

ў Расеі. Памерлы тут у 1826 годзе ва ўзросьце 90 год арцыбіскуп Сестранцэвіч быў вельмі адукаваным чалавекам і разам з некаторымі іншымі хрысьціянамі быў таксама стваральнікам гісторыі Крыма. – Магілёў мае шмат сапраўды прыгожых будынкаў, яго жыхары такія самыя як і ў Віцебску: народныя беларусы, габрэі, палякі, і сярод усіх таксама і рускія. Паколькі ўжо шмат год у Магілёве нязьменна знаходзіцца штаб першай Арміі, то колькасьць яго жыхароў атрымала істотны прырост вайскоўцаў.

Беларускі дыялект, на якім размаўляюць абарыгены абодвух губерняў, Віцебскай і Магілёўскай, мае зусім адрозныя ад польскага асаблівасьці, якія можна таксама заўважыць у звычаях і ладзе жыцьця гэтых народаў. Хаця яны і надзвычайна бедныя, але любяць ганяцца за асалодамі. У нядзелі і сьвяты з кожнай карчмы, якія маюцца ў гэтай губерні ў бясконцай колькасьці, можна пачуць, як граюць на скрыпках і танчуць танцы. Легкадумнасьць здаецца зьяўляецца галоўнай рысай характару гэтага народу. Супраць сваіх паноў яны вядуць вечную скаргу, гэта ўлюбёная тэма іх размоваў, нават з незнаёмымі чужакамі.

Абедзьве апісаныя тут губерні знаходзяцца зараз сапраўды ў вартым жалю стане – і калі краёвыя ўлады хутка і сур'ёзна не задумаюцца над мерапрыемствамі, накіраванымі на паляпшэньне духоўнага і фізычнага стану іх жыхароў, то ў бліжэйшы час няма адкуль чакаць выратаваньня з іх галечы. Галоўная праблема тут, таксама як і на Віцебшчыне, складаецца ў габрэях, якія паўсюль узначальваюць сельскагаспадарчыя прадпрыемствы; гэтая атрутная расьліна ўсіх народных промыслаў мусіць быць цалкам вынішчаная з гэтых мясьцін, сяляне мусяць быць прыцягнутыя да большай стараннасьці ў апрацаваньні сваёй зямлі, землеўласьнікі мусяць аднак стрымліваць самаўпраўства, а іх паводзінам у дачыненьні да сялян мусяць быць прадпісаныя больш строгія прававыя нормы. Прызначаныя да сельскай мясцовасьці сьвятары павінны былі б мець больш пільную адукацыю, чым тыя, што знаходзяцца там зараз. Агульна вядома, як добра сьвятары могуць павялічваць мараль і чысьціню традыцый праз настаўленьні і парады, праз асабістыя ўзорныя паводзіны. Гэтае пажаданьне распаўсюджваецца на ўсю Расею, аднак яно таксама ў некаторых мясцінах Імперыі ўжо прыведзенае да ажыцьцяўленьня эфектыўнай стараннасьцю ўладаў. – Калі б прызначаныя да сельскіх прыходаў сьвятары мелі яшчэ і некаторыя веды практычнай медыцыны, то ў сваёй сучаснай прафесіі яны маглі б стаць насамрэч найкарыснымі грамадзянамі; бо гэта амаль неверагодна, колькі людзей гэтага сельскага народу за недахопам усялякай урачэбнай дапамогі штогод робіцца ахвярамі грубага невуцтва *)[3]. Дарагія дактары і медыкаменты ў настолькі далёкіх гарадах пры іх беднасьці зьяўляюцца недасяжным сродкам.

## Чацьвёрты ліст

з Чарнігава

Нешматлікія дзённыя пераезды паміж Магілёвам і Чарнігавам не прадастаўлялі мне анічога асаблівага, што заслугоўвала б заўвагі. Гомель, прыгожы маёнтак памерлага імпэрскага канцлера графа Румянцава, прыцягнуў да сябе ўсю маю ўвагу сваімі памерамі, (якія узносяць яго да ўзроўня горада), шматлікім прыгожым будынкам, што ўпрыгожваюць яго, і яго прывабным ваколіцам. Калі граф у 1812 годзе цалкам адышоў ад імпэрскіх справаў, ён жыў у філасоўскім спакоі ў Гомеле і аддаваўся толькі патрыятычна-навуковым праэктам,

[3]*) Заўвага аўтара – з усёй колькасьці прыкладаў прыводжу тут толькі адзін. У той самы дзень, калі я ехаў праз мястэчка Бабіновіч, адзін сялянін пахаваў сваё дзіця, немаўля непоўных васьмі месяцаў узростам, чыім забойцай стаў няўмысна сам айцец. Той хварэў некалькі дзён запар, айцец, пачуўшы, што вада зьяўляецца добрым сродкам супраць бяды, прымусова выліваў яму ў рот некалькі разоў штодзень грубую порцыю, няшчаснае дзіця памерла ўжо на другі дзень.

паляпшэньню сельскагаспадарчай прамысловасьці і ўпрыгожваньню гэтага месца жыхарства. Пры асаблівым удзеле графа тут была заснаваная вялікая авечая чарада замежнай пароды, якая знаходзіцца ў росквіце і лічыцца ўзорнай чарадой Імпэрыі. Тут штогод праходзюць кірмашы, якія вельмі папулярныя. Забяспечаны зручнымі сухапутнымі шляхамі і дзьвума суднаходнымі рэкамі (горад ляжыць на Сошы, якая ўпадае ў Дняпро) Гомель вядзе істотны экспарт сваёй прадукцыі. Графскі замак мае імпазантны зьнешні выгляд і ўпрыгожваньні вытанчанага густу і высокага архітэктанічнага мастацтва.

Каля вёскі Дабранка я дабраўся да мяжы паміж Белай і Малай Расеяй і апынуўся на тэрыторыі апошняй. Тады, падчас майго ўʼезду ў гэты ў шматлікіх дачыненьнях славуты край, мой розум запоўнілі некаторыя гістарычныя ўспаміны. Я ўзгадаў, як некалькі тысяч год таму знакаміты Герадот таксама наведваў гэтыя мясьціны, як неверагодна шмат усяго зьмянілася аднак тут з тых часоў. – Я ўзгадаў скіфаў, пад якімі ачалавечаныя цывілізацыяй грэкі разумелі ў вялікім цыкле варварскія народы, што мелі сваё ранейшае паселішча на зьнешняй мяжы Ўсходняй Эўропы і Заходняй Азіі, а потым праз міграцыі перабраліся да гэтых мясьцін. Яны, вядома, былі не настолькі дзікімі і грубымі, якімі іх нам малявалі прадузятыя грэкі, і жылі сярод сябе ў найшчасьлівай прастаце звычаяў. Князь, што кіраваў гэтым народам качэўнікаў, быў больш іх агульным айцом, чым гаспадаром. Яго падуладныя, якія адносіліся да яго гэткмі сямейным чынам, ішлі за ім больш з любові, чым па прымусу. Іх правасудзьдзе складалася толькі з іх прастаты, іх законы толькі з іх чыстых звычаяў. У мірныя часы манарх быў іх пасрэднікам, падчас вайны – ваяводам. Вольна, падобна крылатым жыхарам паветра, скіфы бяспечна існавалі ў цені сваіх далін, у атачэньні сваіх сямей і шматлікіх статкаў. Мёд з суседніх скалаў і козье малако служылі ім харчаваньнем, сяброўства узмацняла іх сэрцы. – Якім шчасьлівым мусіў адчуваць сябе гэты народ, які нават богі так прыкметна любілі! – –

Дабранка населеная рускімі, мясцовымі маларасіянамі, старaверамі *)[4] і габрэямі. Тут ужо адносна пачынаюцца жудасныя сьцяпныя мясьціны, чый выгляд сумны і аднастаўны вышэй усялякіх уяўленьняў; чалавек бачыць прад сваімі вачыма, падобна бяскрайняму мору, шырокую, цалкам плоскую пустыню, на якой не сустракаецца ані ўзгоркаў, ані вады, ані чалавечых паселішчаў, ані дрэваў, ці яшчэ якой зялёнай расьліннасьці; толькі там сяс узвышаюцца вялікія курганы, як сумныя помнікі бітваў, што ішлі тут у далёкім мінулым. Пад некаторымі зь іх сапраўды знаходзюць выбітыя ў камяні хады, чалавечыя і конскія шкілеты, ўзбраеньне. Зімовае падарожжа праз гэтыя стэпы проста вусьцішнае. Штармавы вецер дзьме тут ня толькі жудасна са ўсёй сваёй лютасьцю, з-за чаго холад у гэтых мясьцінах адчувальна павялічваецца, але ён таксама часта суправаджаецца жахлівымі сьняговымі завеямі, якія зганяюць пясок і сьнег у вялікія халмы, што з-за іх колькасьці немагчыма больш разабраць шлях, і падарожнікі праз гэта нярэдка вымушаныя блукаць тут дзень і ноч, не спаткаючы нават найгаротнай хацінкі, дзе можна было б сагрэць сваё замерзлае цела. Паштовыя станцыі ў гэтых стэпах знаходзяцца канечне ў сумным становішчы. Тут нярэдка можна бачыць над сабой у паветры лунаючыя зялёныя шары, якія ёсьць нішто іншае, як мноства скурчанай разам мясцовай дзікай травы, што падымаецца ветрам з зямлі і падкідваецца ў паветры. Не раю нікому, хто не хоча сустрэцца з відавочнай небяспекай для жыцьця, праводзіць ноч у гэтых незвычайных пустэчах.

Чарнігаў на Дзясьне, якая далей за горадам упадае ў Дняпро, пабудаваны з уразьлівым памерам і высокім густам. Гэты горад мае вельмі вялікі ўзрост і зьяўляецца адным з найстаражытных правінцыйных гарадоў Расеі. Ён быў пабудаваны ўжо на пачатку X ст. Народам, вядомым у гісторыі як севяране (паўночны народ), за 6 стагодзьдзяў да таго, як зграі манголаў з Азіі занялі спачатку поўдзень, а потым таксама і і поўнач гэтага няшчаснага

---

[4]*) Заўвага аўтара – адна з сект, што даўно адкалолася ад праваслаўнай грэцкай царквы праз асаблівае вучэньне і традыцыі і адасабляецца ад астатніх рускіх нават у сваіх паселішчах.

царства, ён быў разьбіты і спалены ордамі лютага татарскага хана Батыя; праз сто год Чарнігаў адыйшоў літоўцам падчас грамадзянскай вайны, што разгарэлася паміж рускімі князьямі, але потым перайшоў ад Польшчы зноўку да Расеі, панаваньню якой ён цяпер падпарадкаваны на працягу паўтара стагодзьдзя. Ён зьяўляецца рэзідэнцыяй біскупа, мае добра арганізаваную гімназыю і семінарыю для выхаваньня маладых сьвятароў. – Чарнігаў дзякуючы свайму немаламу ўзросту валодае на сваёй тэрыторыі, вядома, яшчэ шмат якімі каштоўнымі для айчыннай гісторыі помнікамі, якія мала вядомыя сучасьнікам; гэткім чынам ён усё яшчэ мае ў сваіх ваколіцах поле, якое захавала сьляды бітвы, што вялася асярэдзіне XI ст. паміж войскамі панаваўшага тады вялікага князя Яраслава і чарнігаўскіх князёў Усевалада і Манамаха супраць войска цьмутараканскіх князёў Барыса і Алега.

Некалькі год таму тут здарылася жудаснае забойства, якое сваімі асаблівымі дэталямі цалкам заслужыла, каб яго з усёй дакладнасьцю выцягнулі з пыльных тэчак нашага крымінальнага ведамства і перадалі на публікацыю ў якасьці прыклада і перасьцярогі нашым судам: цывільны губернатар, пан Ф..., быў знойдзены аднойчы ранкам у сваёй спальні забітым, са шматлікімі нажавымі ранамі. У той самы час хатняя абслуга бачыла адстаўнога афіцэра, які ўваходзіў у той пакой і неўзабаве пакінуў яго у спешцы са скажонным выразам на твары. Усё паказвала на яго, як на адзінага віноўніка гэтага жахлівага злачынства, ён быў арыштаваны і неадкладна перададзены карнаму трыбуналу. Ён доўга знаходзіўся пад сьледствам; усе намаганьні судзяў, прымусіць яго прызнаць зробленае злачынства, былі марнымі; ён з цьвёрдасьцю стаяў на сваёй невіноўнасьці; так і памёр ён нарэшце падчас допыта ў вязьніцы. Факт ужо даўно забыўся, як раптам нядаўна высьвятлілася наступная дадатковая падзея. Камердынер губэрнатара паміраючы заявіў у прысутнасьці шматлікіх асобаў: афіцэр быў насамрэч невінаваты ў прыпісаным яму злачынстве, а ён са сваімі супольнікамі даўно ўжо складалі плян замаху на жыцьцё свайго пана, і момант, калі яны ўбачылі таго афіцэра, што выходзіў з абурэньнем на твары з пакояў губэрнатара ў гэткі раньні час, яны прынялі за найлепшы для ажыцьцяўленьня сваёй задумкі і неадкладна прыкончылі ахвяру сямнаццацьцю ўдарамі нажа. Насельніцтва ўсяго горада, і нават усёй Імпэрыі, трымалася гэткім чынам на працягу шматлікіх год у ение всего города, и даже всей Империи, держалось таким образом на протяжении многих лет у памылцы адносна сапраўднага забойцы. – Як цяжка мусіць весьці справы справядліваму судзьдзе ў падобных абставінах – і якімі трапнымі застаюцца ў гэтых адносінах словы Катарыны II, якія яна прамовіла ў інструкцыі агульнага законадаўства сваёй Імпэрыі: “Лепш апраўдаць дзесяць вінаватых, чым пакараць аднаго невінаватага”.